*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.*



# наша СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 37 (89) 13 верасня 2023 г.**

# Дажынкі ў Мажэйкаве

9 верасня Мажэйкава стала адной вялізнай святочнай пляцоўкай - аграгарадок прымаў раённыя дажынкі-2023






Хлебаробамі Лідскага раёна сёлета намалочана звыш шасцідесяці тысяч тон збожжавых і зернебабовых, больш за шаснаццаць тысяч тон рапсу, а з улікам зерня кукурузы ёсць магчымасць засыпаць у засекі ўсе 100 тысяч тон! Багаты ўраджай - вынік працы многіх і многіх людзей вёскі: камбайнераў, кіроўцаў, аператараў зернесушыльных комплексаў, аграномаў, інжынераў і кіраўнікоў - словам, усіх, хто робіць адну з самых важных у свеце работ, - вырошчвае хлеб.

*(Заканчэнне на ст. 26.)*

# Дзень народнага адзінства




17 верасня Рэспубліка Беларусь адзначае дзяржаўнае свята - Дзень народнага адзінства. Ён заснаваны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 чэрвеня 2021 г. № 206.

Дата абрана не выпадкова: гэты дзень стаў актам гістарычнай справядлівасці ў станаўленні беларускага народа, падзеленага супраць яго волі ў 1921 г. па ўмовах Рыжскай мірнай дамовы. Аднаўленае ў 1939 г. адзінства дазволіла Беларусі выстаяць у гады Вялікай Айчыннай вайны, заняць ганаровае месца ў міжнароднай супольнасці, стаць адным з сузаснавальнікаў ААН.

Сёння беларускі народ адзіны ў выбары стратэгічнага курсу на развіццё моцнай, суверэннай і квітнеючай краіны. Усталяванне Дня народнага адзінства 17 верасня падкрэслівае пераемнасць пакаленняў, непахіснасць і самадастатковасць беларускай нацыі і дзяржаўнасці.

Да Дня народнага адзінства прымеркавана вялікая колькасць грамадска-палітычных і патрыятычных мерапрыемстваў, а таксама ў сферы культуры, музейнай дзейнасці і медыя.

**Святочны канцэрт да Дня народнага адзінства пройдзе ў Лідзе на Замкавым гасцінцы 17 верасня з 12.00 да 15.00.**

# АД ЗЫЧЛІВАГА ЧЫТАЧА

Як старанныя вучні пісалі наведвальнікі Нясвіжскага раённага сацыяльнага цэнтра дыктоўку Сыракомлі, прымеркаваную да Дня беларускага пісьменства.






Выбар тэксту дыктоўкі аніяк мяне не азадачыў: як божы дзень ясна, што жыхары Нясвіжа і ваколіц павінны, маюць духоўны абавязак праз 200 гадоў ад нараджэння Уладзіслава Сыракомлі і 170 гадоў ад публікацыі ,"Вандровак..." адазвацца на яго зварот "Да зычлівага чытача" - зварот гранічнай шчырасці, неверагоднай душэўнасці, светлай любасці да нашых мясцін.



Пачулі і адазваліся: хто прыгадваў наведванне Барэйкаўшчыны пад Вільняй, хто скрушна распавядаў пра Кудзінавічы на Капыльшчыне, хто дапытваўся пра Мархачоўшчыну, што на Стаўпеччыне, хто прапаноўваў



аўтобусную вандроўку па ваколіцах ,"вясковага лірніка". А самыя старанныя яшчэ і затрымаліся, каб удакладніць "эмацыйную" пунктуацыю паэта.

***Наш кар.***

# "Жыве ў вяках беларускае слова"

7 верасня філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 1" наведалі дзеці ДУА "Дзіцячы сад № 7 г. Ліда", каб прыняць удзел у слайд-падарожжы ў мінулае "Жыве ў вяках беларускае слова", прысвечанае беларускаму пісьменству. Мерапрыемства складалася з некалькі частак.

Першая - слайд-падарожжа, з якога дзеці даведаліся, што гэта свята аб'ядноўвае тых, хто з вялікай павагай ставіцца да роднага слова, духоўных здабыткаў нашага народа, нацыянальнай культуры, асветы і літаратуры.



Другая частка - гэта гістарычны дыліжанс "І пакрочым у глыбіню стагоддзяў", які даў магчымасць дзецям атрымаць звесткі аб выдатных асветніках Беларусі. Зацікавіла прысутных відэавіктарына. Хлопчыкі і дзяўчынкі з захапленнем удзельнічалі ў ёй і давалі правільныя адказы.



Аб тым, што ніхто не застаўся абыякавым, сведчылі зацікаўленыя вочы і ўсмешкі на тварах удзельнікаў.

***Наш кар.***

# "Ад літары - да слова, ад слова - да кнігі"

У філіяле "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" для вучняў 4 "А" класа ДУА "СШ № 4 г. Ліды" прайшоў урок інфармацыйнай і бібліяграфічнай культуры "Ад літары - да слова, ад слова - да кнігі".








Дзеці даведаліся, як да нас прыйшло пісьмо і літара, з якіх элементаў складаецца кніга. А самі дзеці паспрабавалі запісаць свае імёны з дапамогай кірыліцы, прынялі ўдзел у гульні"Літарабум".

***Наш кар.***



№ 37 (89) 13 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Збіральнік скарбаў зямлі беларускай

6 верасня Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі і Лідскі гістарычна-мастацкі музей правялі Навукова-практычны семінар **"Збіральнік скарбаў зямлі беларускай (да 170-годдзя з дня нараджэння Міхала Федароўскага і да 700-годдзя горада Ліды)".**

У праграме семінара былі наступныя даклады:

**Юрый Внуковіч:** "Этнічныя намінацыі і катэгорыі ідэнтычнасці ў працы Міхала Федароўскага "Люд беларускі на Русі Літоўскай".

**Зміцер Скварчэўскі:** "Паданне "Аб даўнейшай веры" са збору Міхала Федароўскага. Да пытання пра паходжанне і ўплывы".

**Сяргей Грунтоў:** "Чытанне Міхала Федароўскага на сучасных беларускіх могілках: уяўленні пра душу і замагільны свет раней і сёння".

**Юры Пацюпа:** "Паэма "Суседчык гавайскі" Вільгельма Пратасэвіча і кан'ектуры да яе Міхала Федароўскага".

**Яніна Грыневіч:** "Уладзімір Дубоўка чытае Міхала Федароўскага: старыя падыходы да новых матэрыялаў".

**Таццяна Валодзіна:** "Народная медыцына ў працах Міхала Федароўскага: да пытання аб раянаванні традыцыйнай культуры".

**Таццяна Кухаронак:** "Дародавыя звычаі, прыкметы, вераванні беларусаў у даследаваннях Міхала Федароўскага".

**Ала Сідаровіч:** "Агонь, святло, зіхценне як праява сустрэчы з боскім (у працы Міхала Федароўскага "Люд беларускі на Русі Літоўскай")".

**Вольга Трубач:** "Свет эмоцый у беларускіх парэміях (паводле збораў Міхаіла Федароўскага)".

**Ірына Смірнова**: "Работа Г.Н. Есимонтовского "Описанпе Суражского уезда" как источник для изучения истории и культуры белорусов Черниговской губернии в XIX в.".





Семінар распачаўся прывітальным словам дырэктара музея Вольгі Лук'ян і рэдактара часопіса "Лідскі летапісец" Станіслава Судніка. С. Суднік прадставіў удзельнікам семінару тры лідскія фальклорныя зборнікі, якія выйшлі за апошнія 6 гадоў, і падарыў календары з серыі "Скарбы Лідчыны".





Вяла семінар доктар філалагічных навук Таццяна Валодзіна.



Падчас выступаў прагучала шмат цікавай інфармацыі пра розныя аспекты этнічнай культуры і самасвядомасці беларусаў, якія зафіксаваў Міхал Федароўскі ў сваёй 8-мі томнай працы "Люд беларускі". Як Напалеон Орда зрабіў зрэз беларускай архітэктуры, так Міхал















Федароўскі зрабіў зрэз усяго этнасу.

Нажаль, не так шмат увагі было ўдзелена біяграфіі Міхала Федароўскага, таму мы ні на крок не прыблізіліся да раскрыцця асобы Лідзіі Падул - першай памочніцы Міхала Федароўскага ў Варшаве, якая была з Лідскага павета, вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. *"Па словах Янкі Саламевіча, даследчыка творчасці Федароўскага, Лідзія Падул нават запісала 7 песень для Федароўскага ў Лідскім павеце. Дзяўчына шмат дапамагала фалькларысту, нават пэўны час жыла ў яго на кватэры. Але больш звестак пра Лідзію Падул адшукаць не ўдалося. Магчыма, пасля заканчэння кансерваторыі, яна пакінула Варшаву". (Сяргей Чыгрын. Збіральнік беларускіх перлаў. Наша слова.pdf № 36, 6 верасня 2023 г.).* Трэба спадзявацца, што лідскія краязнаўцы знойдуць сляды Лідзіі Падул і яе імя зойме сваё месца ў шэрагу лідскіх фалькларыстаў.



***Алесь Хітрун, Юрась Пацюпа, Станіслаў Суднік***

А неўзабаве спадзяёмся на зборнік дакладаў, з якім можна будзе больш глыбока ўнікнуць у пачутае на семінары.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Ліда і Лідскі край у гісторыі Беларусі

8 верасня ў Лідскім замку прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Ліда і Лідскі край у гісторыі Беларусі", прысвечаная 700-годдзю горада Ліды (сумесна з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі).

Адкрыў канферэнцыю лідзянін, супрацоўнік Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Кірыл Сыцько.



Старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік прывітаў дзеячаў навукі, даследчыкаў і публіцыстаў, адзначыўшы ў сваім вітальным слове, што кіраўніцтва раёна заўсёды будзе адкрыта да супрацоўніцтва, да разгляду прапаноў і цікавых праектаў.








Па-беларуску дабраславіў удзельнікаў канферэнцыі лідскі дабрачынны айцец Расціслаў Салаўёў.

На пачатку канферэнцыі былі ўзнагароджаны супрацоўнікі Лідскага музея, лідскія краязнаўцы за










Падзяка

Хітруну Аляксандру Часлававічу

за плённую літаратурную дзейнасць, высілкі па захаванні творчай спадчыны і памяці пра паэта Валянціна Таўлая

Дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі С. С. Юрэцкі

08.09.2023 г.



плённую працу па аднаўленні і папулярызацыі гісторы Лідчыны. Сярод узнагароджаных сталы карэспандэнт газеты "Наша слова.pdf", слынны краязнавец ды пісьменнік Леанід Лаўрэш і навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун. Грамату атрымаў і старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік.

Да канферэнцыі былі падрыхтаваны 56 навуковых дакладаў, большасць з якіх і была прачытана на пленарным паседжанні і трох секцыях.



Тэматыка секцый:

Секцыя 1. Старажытная Лідчына: археалогія. Сярэднявечча і пачатак Новага часу.

Секцыя 2. Лідчына ў Новы і Навейшы час.

Секцыя 3. Лідчына: славутыя імёны, славутыя аб'екты.

Пры адкрыцці канферэнцыі гаварылася, што канферэнцыя ў Лідзе мела за мэту таксама і прыцягнуць да ўдзелу мясцовых краязнаўцаў. І прыцягнулі. Большасць лідскіх краязнаўцаў так ці інакш удзельнічала ў канферэнцыі. Лідзяне (супрацоўнікі музея і краязнаўцы) прачыталі 12 дакладаў. Найбольш яскравы з іх даклад Леаніда Лаўрэша "Новае з гісторыі горада", які тычыцца паселішча XI-XIII стагоддзяў на тэрыторыі Ліды, вядомага





ў гістарыяграфіі як "Ліда Нарбута". Да даклада прагучала рэпліка Алега Дзярновіча, што ў Крэве аналагічная сітуацыя: і там, і тут замак будаваўся недзе за кіламетр ад старога паселішча, і тут, і там гэтае старое паселішча не балцкае, а славянскае. Цікава было б атрымаць інфармацыю з Меднікаў, каб зразумець стратэгічную задумку Гедыміна будаваць лінію замкаў унутры краіны. Але гэта справа для будучых даследаванняў.

Па выніках канферэнцыі плануецца выданне зборніка артыкулаў, дакладаў, навуковых прац па гісторыі Лідскага краю.









Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі на навукова-практычнай канферэнцыі ў Лідзе прадставіла свае рэдкія кнігі - працы выхадцаў і даследчыкаў Лідчыны, напрыклад, прыжыццёвае выданне Тэадора Нарбута.

Але найбольшую радасць лідзяне займелі ўбачыўшы адну з кніг Камілы Нарбут выдання 1852 года. Каміла Нарбут - адна з найстарэйшых лідскіх пісьменніц, пра якую да гэтага часу ведалі вельмі мала.

Бібліятэка прывезла толькі арыгіналы, ёсць нават кнігі 18-га стагоддзя. Зараз, у рамках падпісанай Дамовы з бібліятэкай НАН, у навуковых супрацоўнікаў Лідскага












На канферэнцыі падпісана Дамова пра супрацоўніцтва паміж Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук і Лідскім гістарычна-мастацкім музеем.





музея будзе доступ да атрымання гэтых і іншых рарытэтных кніг.







Важнымі элементамі канферэнцыі былі гутаркі ў перапынках, шматлікія экскурсіі па Лідскім замку. Спецыялісты з Менска прыдзірліва разглядалі ледзь не кожную байніцу, робячы заўвагі пра хібы ў рэстаўрацыі, але ў цэлым можна прывесці словы доктара гістарычных навук Валянціна Голубева, які быў у складзе першага студэнцкага будатрада на раскопках Лідскага замка, што тады ніхто нават і блізка не мог падумаць пра магчымасць убачыць некалі адбудаваны Лідскі замак. А рэчаіснасць аказалася смялейшая за мары.







Канферэнцыя, якая прайшла, была чацвёртай сур'ёзнай канферэнцыяй па гісторыі Лідчыны.

Нпрыканцы ўдзельнікі выказалі падзяку дырэктару музея Вользе Лук'ян і Лідскаму райвыканкаму за выдатную арганізацыю навуковага форуму.

А потым яшчэ два дні Faceboос быў запоўнены лідскай тэматыкай: спрэчкамі, уражаннямі, захапленнем.

***Яраслаў Грынкевіч.***



№ 37 (89) 13 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Беларускі кардыёхірург адпраўляецца ў падарожжа ў Руанду

У Беластоку я сустрэлася з доктарам Віталём Дзядовічам, былым загадчыкам 2-га кардыёхірургічнага аддзялення РНПЦ дзіцячай хірургіі. З 2018 года Віталь Дзядовіч працуе ў камандзе амерыканскага прафесара Уільяма Новіка (Cardiac Novick Allians) і выязджае з яго інтэрнацыянальнай брыгадай у Ірак, Ліван, Індыю і іншыя краіны свету.



Віталь Дзядовіч нарадзіўся ў Менску ў рабочай сям'і. Падчас вучобы ў Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце ён працаваў санітарам у Дзіцячым хірургічным цэнтры. Па заканчэнні вучобы ён перайшоў на сталую працу ў Дзіцячы хіругічны цэнтр у 1998 годзе, і пасля 2014 года ён ўзначаліў 2-ое кардыяхіругічнае аддзяленне Дзіцячага кардыёхірургічнага цэнтра. Набыўшы вялікі практычны досвед і веды, доктар Дзядовіч адчуў неабходнасць паслужыць паляпшэнню здароўя дзяцей у не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах свету.

Высокі, аскетычны, жыццярадасны, 48-гадовы доктар Дзядовіч захоўвае здаровы лад жыцця і прыхільнасць да спорту, ён займаецца трыятлонам і нядаўна заняў 3 месца на спаборніцтвах у Беластоку. Ён адданы сваёй прафесіі, якую вельмі любіць, і дзецям.






Жыхары Ірака і Лівана выказваюць сваю вялікую ўдзячнасць беларускаму кардыёхірургу і ўсёй інтэрнацыянальнай камандзе амерыканскага прафесара Уільяма Новіка. У шматдзетных сем'ях у гэтых краінах нараджаецца шмат дзяцей з парокамі сэрца, якія патрабуюць хірургічнай дапамогі, каб палепшыць стан іх жыцця і здароўя.




Віталь Дзядовіч стала жыве са сваёй сям'ёй у Беластоку з 2022 года, ён мае двух сыноў, адзін з якіх таксама вырашыў прысвяціць сябе медыцыне.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*





# Мудрагелістыя назвы нямецкіх стравaў, якіх пабойваюцца замежнікі



Практычна ў любой краіне свету ёсць мудрагелістыя назвы страў, якія складана растлумачыць і зразумець замежнікам, і Германія - не выключэнне. Расійская турыстка пералічыла ў сваім Дзэн-канале "Адна ў чужым горадзе" 10 нямецкіх ласункаў, назвы якіх дзіўна гучаць і прымушаюць недасведчаных вандроўнікаў уздрыгваць і адмаўляцца каштаваць.

У нас усе ўжо прывыклі да такіх страў, як "селядзец пад футрам", "бульба ў мундзіры" ці кабачковая ікра, і толькі замежнікі могуць задавацца пытаннямі: "Навошта рыбе футра, а бульбе мундзір?" і "Як кабачкі адкладваюць ікру?". У Германіі прыкладна тая ж сітуацыя. Толькі назвы парой больш дзіўныя і зусім незразумелыя замежнікам.

1. **Фальшывы заяц** - Falscher Hase. Да зайцаў і трусоў страва не мае ніякага дачынення, і іх мяса ў складзе няма. Насамрэч гэта мясны рулет з сумесі свінога і ялавічнага фаршу, куды дадаюць соль і перац, вараныя яйкі, цыбулю, булку і паніровачные сухары, а затым запякаюць.

2. **Крык катоў** - Katzengeschrei. Таксама не мае дачынення да катоў. Для падрыхтоўкі стравы немцы бяруць першыя, якія трапіліся, прадукты з халадзільніка, напрыклад, макароны, гародніну і каўбасы, а далей смажаць на патэльні з дабаўленнем яйкаў, марынаваных агуркоў і спецый.

3. **Палова пеўня** - Halber Hahn - і **Дужы Макс** - Strammer Max. Гэта назвы бутэрбродаў. У "Палове пеўня" - гарчыца, сыр і марынаваныя агуркі, у "Максе" - вяндліна і смажанае яйка.

4. **Пірог рускай даяркі** - Russisches Milchmadchenkuchen. У Расіі гэты торт на аснове згушчанага малака завуць "Малочная дзяўчынка", але немцам аказаліся бліжэй даяркі.

5. **Мёртвая бабуля** - Tote Oma. Вонкава нагадвае крывавую кашу, рыхтуецца з крывяной каўбасы "Gratzwurst" і падаецца з варанай бульбачкай, а таксама кіслай капустай.

6. **Мёртвая цётка** - Tote Tante. Гэта дэсерт на аснове гарачага шакаладу з ромам і ўзбітымі вяршкамі.

7. **Гумовы арол** - Gummiadler. Гэта распаўсюджаная на поўдні Германіі і ў Аўстрыі назва для смажаных куранятаў.

8. **Пячоначны сыр** - Leberkase. "Як вы, напэўна, здагадаліся, ні печані, ні сыру ў гэтай страве няма", - насамрэч так называюць мясны хлеб з ялавічыны і свініны, любімы баварцамі.

9. **Ручны сыр з музыкай** - Handkase mit Musik. Гэта страва гесенскай кухні на аснове сыру ручнога вырабу. За музыку адказвае марынаваная ў яблычным воцаце цыбуля з перцам і кменам, якая размяшчаецца зверху.

10. **Халодны сабака** - Kalter Hund. Гэта нявінны дэсерт з шакаладу і печыва, падобны на нашую шакаладную каўбасу.

***Паводле СМІ.***

*Навіны Германіі*

## Германія сенсацыйна ўпершыню ў гісторыі выйграла чэмпіянат свету па баскетболе

У фінале немцы перайгралі зборную Сербіі з лікам 83:77 (23:26, 24:21, 22:10, 14:20).



Найлепшы ў немцаў у фінале Дэніс Шродэр з "Лэйкерз", які набраў 28 ачкоў.

Першую палову сустрэчы ішла роўная барацьба. Германія вырывалася на два ачкі наперад, сербы даганялі, нават выходзілі наперад. На вялікі перапынак каманды сышлі пры ліку 47:47.

У трэцяй чвэрці немцы вырваліся наперад і пайшлі на апошні перапынак з розніцай +12 ачкоў. А ў апошняй чвэрці здолелі захаваць перавагу - 83:77.

Такім чынам зборная Германіі ўпершыню ў гісторыі выйграла залатыя медалі чэмпіянату свету. На турніры яны перамаглі ва ўсіх васьмі матчах.

Раней іх найлепшым вынікам была бронза ЧС у 2002 годзе, калі саліраваў вялікі ў прамым і пераносным сэнсе Дзірк Навіцкі.

У 2010-м Германія была 17-я, у 2019-м - 18-я.

Трэцяе месца на чэмпіянаце свету ўпершыню ў гісторыі заваявала Канада, якая абыграла ў авертайме ЗША з лікам 127:118.

***Фота: Michael Conroy / AP.***





Нагода

# Тварыў усё для Беларусі

Даўно не наведваў вёску Гудзевічы Мастоўскага раёна. Але такая аказія нядаўна надарылася, і я зноў у вёсцы са славутым дзяржаўным літаратурна-краязнаўчым музеем, які ў 1965 годзе заснаваў заслужаны работнік культуры, настаўнік Алесь Белакоз (1928-2016). 11 верасня Алесю Мікалаевічу споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння.

На вялікі жаль, вядомасць музея і яго слава ўжо не тыя. Гудзевічы і музей без Алеся Мікалаевіча неяк прыцішыліся. Хаця сама вёска выглядае прыгожай і чыстай. Асабліва яе Цэнтральная вуліца, дзе знаходзяцца школа, клуб, крамы, сельсавет, музей, цэнтр рамёстваў і г.д. Вяскоўцы, як і ўсе беларусы, недзе спяшаюцца, нешта робяць, працуюць. Гляджу на іх і прыгадваецца Алесь Мікалаевіч Белакоз. Што ён сказаў бы, гледзячы на назвы крамаў у цэнтры вёскі? А гэта і "Чаровница", і "Радуга"…

У цэнтры вёскі знаходзіцца кафэ "Пралеска", дзе можна танна паабедаць. І абед даволі смачны. Настаўнікі, супрацоўнікі музея, сельсавета, госці вёскі часам забягаюць на абед. Усяго ў Гудзевічах сёння пражываюць каля 700 чалавек.

У 2012 годзе з вёскі Гудзевічы да мяне ў Слонім нечакана прыехалі некалькі чалавек і прывезлі шмат пакетаў розных дакументаў: лістоў, папер, ксеракопій, рукапісаў і г.д. Хлопцы былі з Мастоўшчыны і сказалі, што ўсе гэтыя тэчкі ад Алеся Мікалаевіча Белакоза, ён вам перадаў. У чым справа, навошта мне перадаў Алесь Мікалаевіч увесь свой творчы архіў - я не ведаў. Але вечарам таго ж дня патэлефанаваў мне сам настаўнік і папрасіў, каб я падрыхтаваў да друку яго кнігу. Адмовіць такому вядомаму чалавеку я не змог.

Некалькі месяцаў я разбіраўся з архівам Алеся Белакоза, а потым набіраў на камп'ютары лепшыя матэрыялы. Ён часта тэлефанаваў, мы раіліся, гутарылі, абмяркоўвалі будучую кнігу. А напрыканцы 2012 года ў Менску ў выдавецтве "Кнігазбор" кніга Алеся Белакоза "Музей у Гудзевічах" выйшла з друку. Кніга атрымалася выдатнай. У ёй Алесь Мікалаевіч напісаў не толькі пра музей у Гудзевічах, але і пра гісторыю вёскі Гудзевічы, пра гісторыю Гудзевіцкага глыжавіка-маналіту, пра гісторыю пабудовы Гудзевіцкага ветрака, гісторыю царквы, пра Уладзіміра Караткевіча і Гудзевічы, пра паэта Міхася Явара і бібліёграфа Юлію Бібілу, пра паўстанне 1863-1864 гадоў і шмат іншых артыкулаў. Пісаў і пра тых людзей, якія дапамагалі і стваралі разам з Алесем Мікалаевічам і вучнямі вясковы музей. А таксама пра тых, хто шкодзіў музею, хто не хацеў, каб ён быў, існаваў, дзейнічаў.





Школьны музей Алеся Белакоза ў Гудзевічах прыняў сваіх першых наведвальнікаў 2 лютага 1968 года. Яго адкрыццё было прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Першыя экспанаты датуюцца 1965 годам. Менавіта яшчэ тады дзеці пад кіраўніцтвам Алеся Мікалаевіча Белакоза пачалі пісаць лісты пісьменнікам, мастакам, дзеячам навукі і культуры з просьбай даслаць выказванне пра беларускую мову, чарнавік ці рукапіс свайго твора, кнігу з аўтографам. Калі назбіралася многа матэрыялаў - і быў адчынены школьны літаратурна-краязнаўчы музей. Спачатку музей размяшчаўся толькі ў адным пакойчыку, а калі ў 1981 годзе пабудавалі новую двухпавярховую школу, тады пад музей аддалі цэлы будынак старой школы, які размясціў чатыры экспазіцыйныя залы і калідор. Яны былі адчынены ў 1984 годзе.

Яшчэ ў 1980 годзе мясцовы калгас дапамог перавезці з вёскі Семярэнкі да музея хатку, пабудаваную ў канцы XVIII стагоддзя. Першая экскурсія ў ёй была праведзена 6 студзеня 1981 года. А пазней калгас дапамог











перавезці да хаткі свіронак. У 1990 годзе загадам Гарадзенскага ўпраўлення культуры № 10 ад 12 лютага 1990 года на аснове рашэння Мастоўскага раённага Савета народных дэпутатаў № 269 ад 17 студзеня 1990 года музей у Гудзевічах стаў дзяржаўным. Тады ж пад музей быў перададзены другі школьны будынак, дзе ў гэты ж год была адчынена зала "Народная медыцына", праект якой бясплатна зрабіў мастак Алесь Ступень. У гэтым жа будынку ў 1990 годзе былі афармлены дзве залы "Лёну і народнага ткацтва", дзе сабраны ўсе прылады, якія патрэбны для таго, каб лён ці воўна ператварыліся ў тканіну, паказаны ўсе ўзоры тканін, якія выраблялiся ў тамтэйшай мясцовасці, а таксама ўнікальная калекцыя падвойных дываноў. Потым адчыніліся экспазіцыйныя залы. А ў 1997 годзе была зроблена зала "Гісторыя Гудзевіч у дакументах і фотаздымках" і г.д.

Так паціху музей пашыраўся і жыў. Хаця ў стварэнні яго, у пошуках матэрыялаў для яго, існавала нямала перашкод. Але іх змог адолець тады няўрымслівы і апантаны справай Алесь Белакоз. Чалавек-легенда, якім мы павінны заўсёды ганарыцца і памятаць. І мы памятаем пра яго, памятаем такім, якім ён быў - народным настаўнікам, збіральнікам, музейшчыкам, краязнаўцам, літаратарам, вялікім беларусам XX - пачатку XXI стагоддзяў. Алесь Белакоз - гэта шчыры і мужны беларус, патрыёт, чалавек, для якога Беларусь заўсёды была сэнсам усяго яго жыцця.

У той час беларускія музеі ствараліся няпроста і нялёгка. Сколькі папахадзіў, паабіваў парогаў Алесь Мікалаевіч дзеля свайго музея. Яму запісвалі вымовы, наладжвалі ў школе праверкі, абзывалі нацыяналістам, а ён рабіў сваю справу, рабіў упарта і натхнёна, спакойна і… заўсёды. Не ўсё задуманае ім спраўдзілася, адбылося, захавалася для нашчадкаў. Але ён вытрымаў, перажыў, адолеў. І ён дзеля гэтага жыў, каб мы жылі, каб жыла ў свеце Беларусь, каб жыла наша мова, каб захавалася наша багатая спадчына.



За сваё жыццё Алесь Белакоз напісаў і апублікаваў дзесяткі артыкулаў у розных выданнях. Ён пакінуў нам у спадчыну не толькі кнігу "Музей у Гудзевічах", але і выданні "Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей" (1986), "Каб жыла Беларусь" (2003), "Крамянёўка" (2010). У 1987 годзе яму было прысвоена званне заслужанага работніка культуры Беларусі. А ў 2012 годзе Алесь Белакоз быў узнагароджаны прэміяй "За свабоду думкі".

Мне таксама пашанцавала з ім зрабіць некалькі гутарак, я пісаў артыкулы пра лёс яго бацькі, брата Пятра і пра сястру Веру, якая памерла маладой. Вельмі любіў і шкадаваў Веру ўсё жыццё Алесь Мікалаевіч.

Яна вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі, была шчырай беларускай і патрыёткай. Калі ўспамінаў яе Алесь Мікалаевіч, на вачах з'яўляюцца слёзы, "Верачка ўвесь час думала, каб прынесці найбольш славы, дабра, карысці, закаханасці ў сваю Бацькаўшчыну", -- успамінаў Алесь Белакоз. Жыццёвым дэвізам настаўніка з Гудзевіч былі словы: "Усё для Беларусі!".




У 2021 годзе на магіле Алеся Белакоза ў Гудзевічах быў пастаўлены помнік. Яго паставілі з каменя. На ім выбіта прозвішча і гады жыцця Алеся Белакоза, а таксама ефрасінеўскі крыж. Такую просьбу пры жыцці меў сам Алесь Мікалаевіч. Ён прасіў, каб на яго магіле стаяў помнік у выглядзе каменя з мясцовых палетак. Просьбу беларускага грамадска-культурнага дзеяча і педагога выканалі.

***Сяргей ЧЫГРЫН.***



№ 37 (89) 13 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

*Станіслаў Лорэнц*

# Віленскі альбом

## *(Вільня, творчая інтэлігенцыя, краёўцы)*

Я выехаў з Варшавы ў Вільню разам з Рэмерам увечары 17 студзеня 1929 г. вельмі камфартабельным хуткім цягнікам, які пасля васьмі гадзін шляху, прыбыў у Вільню на наступны дзень каля сямі раніцы. Наступныя сем гадоў я быў частым пасажырам гэтага цягніка, і заўсёды, каб дабрацца з Вільні да Варшавы, патрабавалася ўся ноч. Пра наш прыезд у Вільню паведаміў віленскі друк: *"18 студзеня ў Вільню прыбылі генеральны кансерватар Ежы Рэмер і доктар Станіслаў Лорэнц, які зойме пасаду кансерватара і кіраўніка дэпартамента мастацтваў у Віленскай ваяводскай управе".*

Калі я ад'язджаў у студзені, Ірэна (жонка - *Л. Л.*) засталася ў Варшаве і праз тры месяцы павінна была пераехаць у Вільню. Пасяліўся я часова ў гасцінным пакоі ваяводскай управы на вул. Вострабрамскай. А паколькі неўзабаве пачаўся перыяд выключна вялікіх маразоў, да -35° C, мне было вельмі холадна. Таму ўдзень і ўвечары я часта сядзеў у найбуйнейшай віленскай кавярні, у "Чырвоным Штралі"[1] ("Czerwony Sztrall") на вуліцы Міцкевіча. Добра памятаю тагачасны шлягер, які аркестр іграў тут кожны дзень, у ім меўся наступны прыпеў "І цалую вашу руку, мадам".

Адразу 18 студзеня Рэмер пазнаёміў мяне з ваяводам Уладзіславам Рачкевічам (пазней апошнім прэзідэнтам РП у выгнанні). Гэта было зроблена праз сакратарыят. Абавязкі сакратара тады выконваў былы землеўладальнік Станевіч, а пасля яго два браты Вэндорфы. Кабінет ваяводы размяшчаўся ў вялікім вуглавым памяшканні на першым паверсе (рог Катэдральнай плошчы і вуліцы Замкавай). Візіт меў фармальны характар. Пазней Рэмер з усмешкай распавядаў мне, што Рачкевіч спытаў яго, ці ўпэўнены ён, што ў мяне ёсць атэстат аб сярэдняй адукацыі. Я меў 29 гадоў і сапраўды выглядаў вельмі молада.

У той ці на наступны дзень мы наведалі і Фердынанда Рушчыца ў яго кватэры па вул. Замкавая, 24, кв. 8. Гэты дом быў набыты ўніверсітэтам на пачатку XIX ст. і ператвораны ў "медыцынскі калегіюм". Частку будынка займалі апартаменты прафесараў медыцыны, у тым ліку ў левым флігелі жыў Аўгуст Бекю[2]. Тут таксама жыў малады Юліюш Славацкі. У 1927 г. у сцяну флігеля была ўмуравана мемарыяльная дошка, а двор быў названы яго імем. Прафесар Рушчыц з сям'ёй як раз жыў у былой кватэры доктара Бекю.



***Уладзіслаў Рачкевіч, віленскі ваявода, фота каля 1930 г.***

Візіт да прафесара Рушчыца меў у пэўнай ступені сімвалічны характар. Гэта было ўсяроўна, як акрэдытаваць мяне ў самага выбітнага прадстаўніка старой Вільні, амбасадара яе культуры, вядучага прадстаўніка віленскай думкі. Але Рушчыц быў не толькі "тутэйшым" на Віленшчыне, але і вельмі знаным жывапісцам і сцэнографам, крыніцай яго творчасці стала вучоба ў Шышкіна і Куінджы ў Пецярбургскай акадэміі. Потым ён заснаваў Школу прыгожых мастацтваў у Варшаве і два гады чытаў там лекцыі, потым тры гады быў прафесарам Акадэміі прыгожых мастацтваў у Кракаве, належаў да таварыства "Штука". Як бачым, ён займаў выключнае месца ў мастацкім свеце.

На пачатку 1908 г. Рушчыц вырашыў пасяліцца ў Вільні. Неўзабаве тут ён пачаў супрацоўнічаць з віленскім

[1] Кавярня Баляслава Штраля, папулярная сярод творчай інтэлігенцыі Вільны яшчэ да 1914 г. У ёй бывалі і браты Луцкевічы і Янка Купала і інш. - *Л. Л.*

[2] Аўгуст Бекю (польск.: August Ludwik Becu; 1775, Гродна -1824, Вільня) - вучоны-гігіеніст, прафесар Віленскага ўніверсітэта, айчым паэта Юліюша Славацкага. - *Л. Л.*

тэатрам, які толькі што адрадзіўся. Кіраўніком тэатра была Нуна Младзяёўская-Шчуркевіч а адным з маладых акцёраў Юліюш Остэрва. Паміж імі наладзілася самае цеснае супрацоўніцтва. Іх сумесныя пастаноўкі і дэкарацыі сталіся вялікімі падзеямі ў Вільні першых гадоў XX ст.

Мастацкая дзейнасць Рушчыца была вельмі разнастайнай, прыгадаем, напрыклад, серыю з васьмі жывых карцін у тэатры "Лютня" ў 1911 г., складзеную паводле карцін англійскіх прэрафаэлітаў, спектаклі для дзяцей "Свет казак", "Вечар паэзіі", ці клопат, якім ён атачаў моладзевы "Гурток Мастацтва". Яго кватэра (у той час - Зарэчча, 24) была жывым асяродкам культурнага жыцця.

Пра тое, што ён ніколі не парываў з Варшавай, сведчыць знакамітая сцэнаграфія Рушчыца да "Баладыны" ў Польскім тэатры ў 1914 г. Яго дзейнасць як тэатральнага дэкаратара завяршалася цудоўнымі дэкарацыямі да "Лістападаўскай ночы" ў 1930 г.

У 1922 г. на Віленскім сойме Сярэдняй Літвы Рушчыц прагаласаваў за ўключэнне Вільні ў склад Польшчы. У той час ён быў неафіцыйным прадстаўніком польскай культуры перад замежнымі місіямі і высокапастаўленымі асобамі, таксама і ў наступныя гады ён меў вялікую павагу ў гэтай ролі.

Рушчыц не меў літаратурных схільнасцей і не быў прамоўцам. Але, магчыма, будзе добра, калі я працытую яго ўласныя словы пра Вільню з яго рэдкіх выступленняў і артыкулаў: *"Горад з дзіўнай, загадкавай прывабнасцю і незнішчальнай прыгажосцю", "нельга застацца абыякавым перад чароўнасцю пагоркаў, якія акружаюць даліну і перасякаюцца выгінамі дзвюх рэк, з'яўляюцца і зноў знікаюць у далячыні Віліі і Вілейкі", "таямнічая чароўнасць Вільні і жывапісны пейзаж", "мелодыя чароўнасці Вільні", "спеў у лініях і колерах Вільні", "горад высокіх вежаў".*

У тыя першыя дні мы наведалі таксама і сябра Рушчыца, Яна Булгака. У сваіх успамінах пра Рушчыца ў кнізе водгукаў, выдадзенай у 1939 г., Булгак пісаў, што абавязаны яму "*лепшымі гадзінамі свайго жыцця*". І, хіба, так і сапраўды было, бо Рушчыц з гэтага абшарніка з Наваградчыны і фатографа-аматара, зрабіў прафесійнага фатографа і фатографа-мастака. Рушчыц арганізаваў выставу яго фатаграфій у Менску ў 1911 г. У тым жа годзе ў маёнтку Рушчыца Багданава на Ашмяншчыне, як напісаў Булгак ў кнізе: *"Рушчыц паказаў мне ўзгорак з ельнікамі на тле далягляду - знаёмы гарбаты сілуэт, знаёмы кожнаму, хто памятаў пафасную лінію гарызонту ў Рушчыцавай "Зямлі""*.

Па ініцыятыве Рушчыца Булгак заснаваў у 1912 г. у Вільні фатаграфічную майстэрню, галоўнай задачай якой была інвентарызацыя помнікаў віленскай архітэктуры паводле ўказанняў Рушчыца. "Фатаграфаваць сэрцам" - такі быў дэвіз Рушчыца, якога прытрымліваўся Булгак. *"Рушчыц на кожным кроку Вільні меў свае любімыя куткі, куды ён мяне прыводзіў і раскрываў тайну іх прыгажосці [...] Я ішоў па яго слядах, вучыўся ўлоўліваць яго пачуцці і знаходзіць свае"*, - успамінаў Булгак. *"Часам да нашых блуканняў далучаўся і Вацлаў Студніцкі*[3]*, якому я таксама павінен падзякаваць за тыя гады. Студніцкі быў жывым летапісам гісторыі старой Вільні"*. Цягам некалькіх гадоў Булгак стварыў уражлівы фатаграфічны вопіс Вільні і Віленскага краю, які налічвае, напэўна, больш за 6000 фотаздымкаў. Падчас майго візіту да яго (пляц Ажэшкі, 3) ён паказаў мне свой фотаархіў.



***Прафесар Юліюш Клос***

Справа кансервацыі і інвентарызацыі помнікаў хутка па-сяброўску звязала мяне з праф. Клосам[4] і Булгакам. І нягледзячы на значную розніцу ва ўзросце, мы называлі адзін аднаго па імёнах. З 1919 г. Булгак быў кіраўніком майстэрні мастацкай фатаграфіі на факультэце прыгожых мастацтваў універсітэта імя Стэфана Баторыя.

У наступныя тыдні я наведаў архіварыюса горада

[3] Па ўспамінам Пятраса Клімаса, менавіта фізічная бойка паміж Іванам Луцкевічам і Вацлавам Студніцкім у "Чырвоным Штралі" прывяла да адыходу братоў Луцкевічаў ад краёвай ідэі. - *Л. Л.*

[4] Юліюш Клос (1881, Варшава - 1933, Вільня) - архітэктар, фатограф, гісторык архітэктуры, прафесар універсітэта Стэфана Баторыя.

Вільні Вацлава Гізберта-Студніцкага (брата Уладзіслава[5]) і Міхала Брэнштэйна[6], да якога ў мяне быў рэкамендацыйны ліст ад прафесара Батоўскага. Брэнштэйн быў куратарам аддзела рукапісаў універсітэцкай бібліятэкі. Ён шмат гадоў правёў у Жамойці і стаў лепшым знаўцам гісторыі, этнаграфіі, статыстыкі і помнікаў роднай Жамойці. Бібліяграфія яго прац у гэтай галіне і па цэлым Вялікім Княстве Літоўскім складала больш за 600 адзінак і ён справядліва атрымаў ступень ганаровага доктара Універсітэта Стэфана Баторыя. Паміж намі скалаліся вельмі добрыя адносіны, чаму спрыялі пачуццё гумару Брэнштэйна і яго тонкі розум. Ён любіў жартаваць. Запомніўся яго аповед, як у канцы XIX ст. ў Панямуні (Брэнштэйн нарадзіўся і доўгі час жыў у Тэльшах на Жамойці) ён стаў прыхільнікам барацьбітоў з алкагалізмам. На вялікім сходзе было вырашана стварыць таварыства цвярозасці. Пасля агульнага сходу, арганізавалі сумесны абед у рэстаране. Пасля гэтай вячэры членаў антыалкагольнага таварыства слугі разносілі па-дамах. Перад смерцю (у 1938 г.) ён праявіў да мяне добразычлівасць бо запавядаў Нацыянальнаму музею свой вельмі каштоўны залаты гадзіннік, зроблены у XIX ст. Аляксандрам Радніцкім, з відам Вострай Брамы, выгравіраваным з аднаго боку, і Троцкага возера з лодкай на пярэднім плане, з другога боку.

Адразу пасля прыезду ў Вільню я завязаў кантакты з людзьмі, якія былі неабходны мне прафесійна. Праз Брэнштэйна я ўвайшоў у кантакт з Віленскім таварыствам сяброў навукі, з музейнымі калекцыямі Таварыства і з прафесарам Станіславам Касцялкоўскім[7], чыя высакародная жыццёвая пазіцыя усімі высока цанілася. Скончыў ён сваё жыццё старэйшым членам Акадэмічнай супольнасці Лонданскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя. Я рады, што машынапіс яго вялікай працы пра Антонія Тызенгаўза, які быў перададзены мне на захаванне падчас вайны, я захаваў і вярнуў прафесару Касцялкоўскаму ў пасляваенныя гады ў Лондане. Манументальная двухтомная манаграфія пра Тызенгаўза была выдадзена Акадэмічнай супольнасцю ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Лондане ў 1970 г.

Я не шукаў кантакту з элітарным асяроддзем шляхецкага паходжання, выдатнымі прадстаўнікамі якога былі Аляксандр Мяйштовіч[8] (бацька ксяндза Валяр'яна Мяйштовіча, выбітнага выдаўца ў Рыме крыніц па гісторыі Польшчы з Ватыканскіх архіваў) і прафесар Мар'ян Здзяхоўскі[9].

Мяйштовіч, прыхільнік пагаднення з царом, "кацярынец", гэта значыць удзельнік цырымоніі адкрыцця помніка Кацярыне II у Вільні ў 1904 г. за што быў ўганараваны годнасцю "камер-юнкера", быў непрыемнай для мяне постаццю, нягледзячы на тое, што ў Польшчы даслужыўся нават да пасады міністра. Аднойчы я быў на вечарыне ў Здзяхоўскага, які карыстаўся вялікай павагай і прызнаннем у Вільні. Але гэты віленскі сепаратыст, "тутэйшы", які вагаўся паміж хрысціянствам Шатобрыяна і Яснай Палянай Талстога, не быў мне сімпатычным, быў ён расійскім славянафілам[10].

[5] Юзаф Мацкевіч пісаў: "Прафесар Уладзіслаў Гізберт-Студніцкі (у апошнія гады ён абмяжоўваўся толькі другой паловай прозвішча) родам быў з Лівоніі і ўсёй сваёй істотай належаў XIX ст. "Прафесарам" яго назвалі пазней па трох прычынах: па-першае, некаторы час ён выкладаў у віленскім Інстытуце вывучэння Усходняй Еўропы; па-другое, гэтае званне падыходзіла яму па ўзросту; па-трэцяе, ён быў па-прафесарску рассеяны. Аб яго няўважлівасці хадзіла мноства гісторый. У яго быў брат Вацлаў, віленскі архіварыюс. Таксама нізенькі, падобны на брата, нібы блізнюк, і таксама рассеяны. Аднойчы, пасля збору Таварыства сяброў навук, Студніцкія пераблыталі паміж сабой свае паліто. Іншых такіх жа кароткіх паліто больш у раздзявальні не было. Заўважылі яны гэта, толькі калі выйшлі разам і ўжо рухаліся ў паліцэйскі ўчастак падаваць скаргу аб крадзяжы паліто. Можа, гэта і анекдот: хто б з-за такога пайшоў у паліцыю? Але вось праўдзівы выпадак. Раз, калі Студніцкі ехаў на рамізніку, ён раптам нешта ўспомніў, спыніў рамізніка, сышоў і накіраваўся ў адваротны бок. Рамізнік павярнуў каня і паслухмяна рухаўся ўздоўж тратуара, мяркуючы, што гэта такі прафесарскі капрыз. Толькі на трэцяй вуліцы ён звярнуўся: "Паночак, а дакуль гэта будзе?" Узнік буйны скандал, бо Студніцкі быў упэўнены, што ўвогуле ні на якім рамізніку не ехаў. У рэдакцыю ён, бывала, з'яўляўся ў крухмаленым каўнерыку, але без прышпіленага гальштука..."- цыт па: Культура. 1965. №12. - *Л. Л.*

[6] Міхал Яўстахі Брэнштэйн (1874 г. у Тэльшах - 1938 г. у Вільні) - бібліятэкар, бібліяфіл, гісторык, археолаг і этнограф-аматар. - *Л. Л.*

[7] Станіслаў Касцялкоўскі (1881 г. у Гародні - 1960 г. у Пітсфард-Холе каля Нортгемптана, Вялікабрытанія) - гісторык, даследчык гісторыі Літвы, прафесар Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя. - *Л. Л.*

[8] Аляксандр Мяйштовіч (1864 у Ковенскай губерні - 1943, Рым) - палітычны і дзяржаўны дзеяч. Віца-старшыня Ковенскага таварыства сельскай гаспадаркі (1900-1904), дэпутат (1909-1917) ад Ковенскай губерні ў Дзяржаўны Савет Расійскай імперыі, старшыня (1921-1922) Часовай урадавай камісіі Сярэдняй Літвы, шматгадовы старшыня Віленскага зямельнага банка. У Польшчы быў міністрам юстыцыі (1926-1928) у кабінетах Юзафа Пілсудкага і Казіміра Бартэля. У 1905-1911 гг. быў прыхільнікам ідэй "краёвасці" і фінансаваў выданне газеты "Кур'ер Літоўскі", у 1918-1939 гг. быў адным з лідараў "віленскіх кансерватараў". - *Л. Л.*

[9] Мар'ян Эдмундавіч Здзяхоўскі (1861, Ракаў - 1938, Вільня) - публіцыст, літаратуразнавец і філосаф, рэктар Універсітэта Стэфана Баторыя (1925-1926). - *Л. Л.*

[10] Пра прафесара Мар'яна Здзяхоўскага з вялікай павагай пісаў Антон Луцкевіч. Гл: Nowina. O duszy bialoruskiej Syrokomli // Preglad Wilenski. 1937. № 9. S. 5-6. (у маім перакладзе: Луцкевіч Антон. Аб беларускай душы Сыракомлі / / Наша слова.pdf № 5 (57), 1 лютага 2023.) - *Л. Л.*







***Злева на права: Ян Булгак, Станіслаў Лорэнц, Юліюш Клос, 1930 г.***

Пра віленскіх і навагрудскіх землеўладальнікаў я не меў аніякага паняцця. Добра памятаю, што пісаў Булгак, сам абшарнік, у "размовах з Рушчыцам": *"...аднойчы, пасля тэатра [у 1913 г.], мы з Рушчыцам апынуліся ў кабарэ Шумана ў бернардынскім садзе. Было гэта месца дзе жыла муза ўзроўню расійскага унтэрафіцэрства, узроўню, характэрнага для тых часоў і для ўсяго, што культывавала у той час у нашым краі [...] Не перашкаджала гэтаму тое, што тут прапівалі высокія заробкі расійскія чыноўнікі і свае магнацкія багацці нашы абшарнікі, якія задавалі тон у тагачаснай Вільні"*.

Вільня ў тыя часы была адзіным горадам, дзе не існавала праблем з жытлом. Заўсёды былі свабодныя кватэры, і яны здаваліся па нармальным кошце.

Мой мастацкі аддзел пры ваяводскай управе займаў зусім асобную частку будынка. Трапіць сюды можна было не праз галоўны ўваход, а з Саборнай плошчы праз браму ў бакавы двор, адтуль па сходах кухоннага тыпу на другі паверх. Аддзел меў тры пакоі: мой кабінет, вялікі кабінет, дзе сядзелі Лапалеўскі і Шрам (Шрамаўна), і пакой, у якім ствараліся фота- і дакументальныя архівы, а таксама захоўваліся справы помнікаў.

У 1928 г. Тадэвуш Лапалеўскі толькі што выдаў кнігу паэзіі пад назвай "Прыгожая вандроўка", у ёй мелася некалькі вершаў, прысвечаных Вільні. Ён быў маім намеснікам, але большасцю штодзённых спраў займалася Шрам. Мы не надта перашкаджалі Тадэвушу ў яго больш сур'ёзнай працы, напрыклад, у напісанні ў 1931 г. добрага рамана "Правінцыялы". У нас з жонкай хутка склаліся сардэчныя асабістыя адносіны з Лапалеўскімі.

Тадэвуш Лапалеўскі завяршыў нашу гісторыю ў тых краях прыгожай кнігай, выдадзенай у познаньскай серыі Вэгнера, пад назвай "Паміж Нёманам і Дзвіною - Віленска-Навагрудская зямля". На падараваным мне ў лютым 1939 г. асобніку кнігі ён напісаў прысвячэнне: *"Майму любімаму Стаху на памяць аб нашых агульных шпацырах па Вільні, Навагрудку і Слоніму, са шчырым сяброўствам*".

Выдатнай асобай была Гелена Шрам, мастачка-жывапісец з Падгужжа Карпацкага, дачка прафесара Ягелонскага ўніверсітэта, якая вучылася ў Кракаве, Мюнхене і Парыжы. Цікавілася сярэднявечным жывапісам, а пасля вяртання ў Польшчу - народным мастацтвам. У пачатку 1920-х гг. разам з Зоф'яй Бадуэн дэ Куртэнэ займалася касцельнымі паліхроміямі і пачала маляваць на шкле. У 1925 г. пераехала ў Вільню працаваць на факультэце мастацтваў. Вялікую актыўнасць мела ў "Таварыстве падтрымкі народнай прамысловасці" і ў "Базары народнай прамысловасці ў Вільні".

У ваяводскай управе я ў першыя дні сустрэў важных людзей. Віца-ваявода Кіртыкліс - былы маёр жандармерыі, быў непрыемным чалавекам, і яго жонка Яніна, старшыня "Грамадзянскай працы жанчын", нам таксама не спадабалася. Гэта былі людзі невысокага культурнага ўзроўню, абое звязаныя з "двойкай" генеральнага штаба[11]. Блізкія службовыя стасункі склаліся ў мяне былі з начальнікам Адміністрацыйнага дэпартамента Дваракоўскім, кіраўніком Дэпартамента аховы здароўя доктарам Рудзінскім (бацькам кампазітара), ахвотна дапамагаў мне дырэктар грамадскіх работ Сіла-Навіцкі. Інтэлігентам быў радца Віктар Пятровіч (аддзел веравызнанняў) і радца Міхал Паўлікоўскі . Гэты, апошні, землеўладальнік з Меншчыны, выдатны паляўнічы, быў рэдактарам дадатка газеты "Слова" Мацкевіча пад назвай "Дзе, ах дзе трубы паляўнічыя граюць". У эміграцыі ён апублікаваў свае ўспаміны пад назвай "Дзяцінства і юнацтва Тадэвуша Ірценьскага" (Лондан, 1959 г.).

Мае адносіны з ваяводскай управай былі даволі свабоднымі, бо ваяводзе я падпарадкоўваўся толькі ў адміністрацыйных справах, а непасрэдна быў падпарадкаваны Міністэрству Веравызнанняў і Асветы.

***Пераклад і каментары Леаніда Лаўрэша.***

*(Працяг у наступным нумары.)*

[11] Другі аддзел Генеральнага штаба (да 1928 г.), потым Галоўнага штаба - вайсковая выведка. - *Л. Л.*

